# Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №2(84), сьнежань, 2016г.


# АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ УЛ. КАРАТКЕВІЧА

**Жыхары Віцебску ўсклалі кветкі да помніку Караткевічу. 86-я гадавіна з дня нараджэньня пісьменьніка – дата, вядома, не юбілейная, але ад таго ня менш значная, як і асоба творцы. Мерапрыемства было амаль спантанным. Каля надзвычай ўдалага помніку скульптара Івана Казака сабралася толькі крыху больш за 20 чалавек, якія не забыліся на дзень народзінаў знакамітага земляка.**

Для дэнацыяналізаванага насельніцтва Віцебску, як і для гарадзкога кіраўніцтва, асоба выбітнага беларускага літаратара, відаць, не ўяўляе ані культурнай, ані знакавай каштоўнасьці. Ва ўсялякім разе, да дванаццатай гадзіны дня аніводнай кветкі, аніводнага вянка ніхто зь іх прынесьці да манумэнту не паруліўся. Да таго ж калі б ня пільнасьць і воля мясцовай актывісткі Тацяны Севярынец, якая зьвярнула ўвагу грамадзкасьці і гарадзкіх уладаў на аварыйны стан лесьвіцы да помніку Ўладзімеру Караткевічу, дык да прыкрай абыякавасьці насельніцтва да сваёй літаратурнай спадчыны дадалася б яшчэ і будаўнічая неўладкаванасьць.

Першым слова ўзяў ганаровы старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ **Ёсіф Навумчык**, які быў асабіста знаёмы з Уладзімерам Сямёнавічам. Ён прыгадаў, што менавіта п'есай «Званы Віцебску» Караткевіча адкрываліся ў 1974 годзе ўрачыстасьці, прысьвечаныя тысячагодзьдзю абласнога цэнтру. Адзначыў Ёсіф Адамавіч і той момант, што знаёмства з выбітным беларускім пісьменьнікам паспрыяла фармаваньню яго асабістай нацыянальнай самасьвядомасьці. А выступ свой ён скончыў тым, што заклікаў увасабляць у жыцьцё ідэі нацыянальнай і дзяржаўнай незалежнасьці, разьвіваць беларускай культуру і мову, ды памятаць, што ўпершыню ў найноўшай гісторыі агучыў іх Караткевіч.

**Тацяна Севярынец** выпісала некалькі высноваў, зробленых з жыцьця Ўладзімерам Караткевічам, і зачытала іх. Запомнілася наступная: «Хто ня памятае мінулага, хто забывае мінулае – асуджаны зноў перажыць яго. Безліч разоў».

**Хрыстафор Жаляпаў**, які прыйшоў да помніку з нацыянальным беларускім сьцягам, распавёў прысутным пра тое, як ён, прыехаўшы у Віцебск у 1973 годзе зь іншай рэспублікі, за гэты час стаў ня толькі жыхаром Віцебску, але і сапраўдным беларусам. Праз беларускую літаратуру, культуру і мову ён прыйшоў да беларускасьці, стаў часткай беларускага народу. «Але ж ёсьць тутэйшыя беларусы, якія дагэтуль крычаць: «Слава Расеі!». Жыць у Беларусі і ня быць яе патрыётам – гэта не натуральна», – падкрэсьліў спадар Хрыстафор.




Самай лірычнай часткай імпрэзы стаў выступ Кастуся Смолікава. Зь ягоных вуснаў прагучалі ня толькі цёплыя словы на адрас Ўладзімера Сямёнавіча, але і некалькі вершаў зь першага тома збору твораў. І хаця паэтычная спадчына літаратурнай творчасьці Караткевіча зьмясьцілася ў адной кнізе, яна ня стала ад таго менш значнай і менш ўплывовай на чытача. Пераконвае ў гэтым і верш «Мова». Вось некалькі радкоў зь яго:

**І на іншых вяршынях суровых**  
**(Вера! Роўнасьць! Свабода! Край!)**  
**Ты струменьчык матчынай мовы,**  
**Быццам маці, не забывай.**

Прыемнай неспадзяванкай напрыканцы імправізаванага мерапрыемства стала чытаньне ўласнага верша выпадковым мінаком, які прыехаў у горад на курсы зь вясковай глыбінкі. Верш, далёкі ад прынятых правілаў вершаскладаньня, быў настолькі шчырым і важкім па ўзьнятых пытаньнях, што ўразіў ня толькі мяне, але і ўсіх прысутных. А самае галоўнае, што ён быў прачытаны на добрай беларускай мове і ўздымаў тэмы мовы, культуры і нацыянальнай незалежнасьці, якой у поўным аб'ёме дасюль няма. Гэты эпізод імпрэзы пераконвае: калі ўжо звычайныя беларускія людзі разважаюць на такія тэмы і нават пішуць вершы, то, дасьць Бог, беларуская справа будзе мець плён і перспэктыву. А Ўладзімер Сямёнавіч нам у гэтым, як заўжды, дапаможа.

С. Горкі, vitebskspring.org

Магістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская Рада Партыі БНФ

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ

**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў

**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд

**Дызайн:**
Сяржук Серабро

**Вёрстка:**
Сямён Залацец

**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр грамадзкіх ініцыятываў

**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.

**Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ: вул.Церашковай, д.11, п.№.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**

E-mail: kas_vit@tut.by

**WWW.NARODNY.ORG**

VK.COM/PARTYJA_BNF

VK.COM/BNF_MOLADZ

*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

# СУД ЗА СЦЯГ?

**У кастрычніцкім раённым судзе горада Віцебска 14 сьнежня слухалася справа Жаляпава Хрыстафора Савельевіча, мясцовага актывіста Руха "За свабоду" і сябра Партыі БНФ.**

Яго абвінавачвалі па артыкуле 23.34 частцы 1 адміністрацыйнага кодэкса краіны ў тым, што ён арганізаваў несанкцыянаваны пікет і хадзіў з бел-чырвона-белым сцягам каля помніка Караткевіча на вуліцы Чэхава, чым выказваў свае грамадска-палітычныя погляды і інтарэсы.

На суд быў запрошаны перакладчык з беларускай на рускую мову **Зіманскій Вадзім Эльдаравіч**, дацэнт кафедры ВДУ з 26 гадовым стажам працы. Прычым сам Жаляпаў заявіў, што яму не патрэбны перакладчык, так як ён будзе размаўляць па-руску, а беларускамоўныя сведкі сказалі, што разумеюць рускую мову. На што, вядучы працэс судзьдзя **Царыкаў Уладзімір Міхайлавіч** сказаў, што перакладчык патрэбен будзе яму, так як ён можа што-небудзь не зразумець на беларускай мове. Такія ў нас нынче суддзі, што не разумеюць дзяржаўнай мовы.

На судовым пасяджэньні прысутнічала каля 20 чалавек, у асноўным грамадскія і палітычныя актывісты города, якія прадстаўлялі Партыю БНФ, Партыю Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, Рух "За свабоду" і прыйшлі падтрымаць свайго сябра і аднадумца.

У пачатку паседжаньня суддзя спытаў – ці прызнае сябе вінаватым Хрыстафор у тым, што арганізаваў несанкцыянаваны пікет. На што атрымаў адмоўны адказ.

Выступаўшыя ў якасці сведак **Таццяна Севярынец** і **Алена Шабуня** заявілі, што дадзенае мерапрыемства не з'яўлялася пікетам, а прыйшлі яны туды, каб ускласці кветкі да помніка Караткевіча, аддаючы такім чынам даніну павагі вялікаму беларускаму пісьменніку і проста пагутарыць.

З боку абвінавачаньня быў выкліканы ў якасці сведкі капітан міліцыі **Сяргей Варакса**, які і склаў пратакол, які даў ход дадзенай карыкатурнай справе. Ён заявіў, што не ведае, пра што казаў Хрыстафор і што рабіў, бо сядзеў у сваёй машыне і блізка не падыходзіў. Але ведае, што гэта дакладна быў несанкцыянаваны пікет. І што яго арганізаваў Жаляпаў.

Сам жа Хрыстафор Жаляпаў задаў яму пытаньні: "Ці з'яўляецца ўскладаньне кветак да помніка масавым мерапрыемствам ці не?" і "Чаму ён не падышоў і не папярэдзіў удзельнікаў, пра тое, што, на яго думку, яны ўдзельнічаюць у несанкцыянаванай акцыі, як гэта звычайна бывае ў такіх выпадках?". На гэтыя пытаньні спадар Варакса не знайшоў, што адказаць, а толькі з ухмылкай глядзеў на суддзю, робячы выгляд, што, навошта яшчэ адказваць, калі і так усё зразумела. Прынамсі, толькі так можна было расцаніць яго выраз твару і нежаданьне адказваць на пытаньні.

Перад вынясеньнем прысуду ў сваім заключным слове Хрыстафор Жаляпаў сказаў "За што мяне судзяць? За сцяг. Хто мне пакажа дзе напісана, што нельга хадзіць са сцягам. У пратаколе напісана, што я арганізаваў пікет з мэтай выказваньня сваіх грамадска-палітычных поглядаў. Я ж прыйшоў са сьцягам, каб такім чынам выказаць сваю любоў і павагу да беларускай гісторыі, беларускай культуры, беларускай мовы, бо менавіта з гэтым у мяне атасаямляецца бел-чырвона-белы сцяг. Таму я лічу гэтую справу палітычнай".

Падчас заключнай прамовы Хрыстафора, міліцыянт Варакса, які быў запрошаны сведкам, выкрыкваў з месца, чым перашкаджаў суду і выказваў непавагу да яго, на што і было суддзёй зроблена яму заўвага. Падобна на тое, што наша міліцыя не паважае не толькі грамадзян і іх правы, але і беларускі суд.

Нягледзячы на абсурднасьць складзенага пратакола, фактычнай адсутнасці сведак з боку абвінавачваньня (акрамя міліцыянта, які склаў пратакол, нікога не было), і праяўленай непавагі з боку міліцыянта Вараксы (адмовіўся адказваць на пытаньні, парушаў судовы працэс перабіваючы Хрыстафора ў заключнай прамове) суд тым не менш вынес прадказальнае рашэнне - Хрыстафор Жаляпаў быў прызнаны вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага пікету. Але, штрафу не было, а было вынесена толькі папярэджанне. Усё ж такі ў нас у Беларусі "адліга" і паляпшэнне адносін з Еўропай. Прынамсі так кажуць.

Ул.Васільеў

**ДАСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**
**Рэквізыты: р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк" філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226, УНП: 100052236 "прызначэньне плацяжу" — "бязвыплатны ўзнос"**

# ПЕРАДНАВАГОДНІ ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла павіншавала беларусаў з Нараджэньнем Хрыстовым і з Новым Годам.**

Дарагія суродзічы, дарагія беларусы ва ўсім сьвеце, сканчаецца 2016 год, і надышоў час нам падвесьці ягоныя вынікі.

Разам з усім сьветам мы перажываем напружаныя часы. Палітычныя падзеі гэтага году ў ЗША, Вялікай Брытаніі, Расеі і іншых краінах распачалі ў сьвеце пэрыяд непрадказальнасьці, які нясе для Беларусі большыя рызыкі, чым для многіх іншых краінаў.

Як і раней, найбольшую небясьпеку для Беларусі ўтварае пагроза незалежнасьці з боку цяперашняй аўтарытарнай Расеі. Вельмі непакоіць актывізацыя агрэсіўнай прапаганды ў праўладных расейскіх СМІ: прапаганды напоўненай нянавісьцю да Беларусі і беларускага народу. Вельмі непакояць закулісныя перамовы паміж беларускім і расейскім дыктатарамі, эканамічны ціск і асабліва неадназначныя расейскія вайсковыя перасоўваньні каля беларускай мяжы. Падзеі, якія адбываліся ва Ўкраіне ад 2014 году, не дазваляюць спакойна назіраць за гэтым.

Няма сумневу ў тым, што Расея ёсьць наш сусед, і нягледзячы на супярэчлівую гісторыю нашых дачыненьняў, Беларусь і Расея павінны жыць у сяброўстве і добрасуседзтве, грунтуючыся на ўзаемнай павазе.

Але незалежнасьць – гэта найвялікшая і найважнейшая каштоўнасьць для любога народу, у тым ліку і для нашага, беларускага. На жаль, у цяперашні час нам зноў даводзіцца ўсур'ёз думаць пра неабходнасьць для беларусаў бараніць гэтую незалежнасьць са зброяй у руках. Прычым ад людзей, якія хочуць называць сябе нашымі братамі.

Сытуацыя робіцца больш напружанай і ўнутры Беларусі. Яе эканоміка знаходзіцца ў цяжкім крызісе, у той час, калі эканоміка ўсіх суседніх эўрапейскіх краінаў расьце. Дабрабыт беларусаў працягвае пагаршацца. Гэта яўны знак таго, што цяперашняя мадэль кіраваньня краінай даўно вычарпала свой рэсурс, што Беларусь патрабуе сур'ёзных рэформаў ва ўсіх сфэрах: як у эканоміцы, так і ў палітыцы, так і ў грамадзкім жыцьці.

2016 год адзначыўся актывізацыяй кантактаў паміж афіцыйнымі беларускімі ўладамі і прадстаўнікамі краінаў Вольнага Сьвету. Гэта ёсьць добра, бо патэнцыйна набліжае пераадоленьне міжнароднай ізаляцыі нашай Бацькаўшчыны. Але сусьветная супольнасьць павінна разумець, што саступкі менскаму рэжыму недапушчальныя без канкрэтных і адчувальных крокаў у кірунку дэмакратызацыі ў Беларусі. Менскі афіцыйны рэжым дагэтуль не зрабіў такіх крокаў. Працягваецца перасьлед беларусаў дзеля палітычных матываў, працягваецца цэнзура і прапаганда ў галоўных беларускіх СМІ. Парлямэнцкія выбары, што прайшлі ў 2016 годзе, былі такімі ж несумленнымі і сфальсыфікаванымі – такім-жа падманам і абразай беларускага народу – як і ўсе папярэднія выбары й рэфэрэндумы за апошнія восем ужо больш як дваццаць гадоў.

Афіцыйная беларуская ўлада павінна ўсьведамляць, што дэмакратыя і эканамічныя рэформы неабходныя з пункту гледжаньня беларускіх нацыянальных і дзяржаўных інтарэсаў. Беларускі народ дастойны таго, каб жыць у сваёй уласнай дэмакратычнай краіне, каб мець такія ж самыя правы і свабоды, як маюць нашыя суседзі ў іншых краінах Эўропы. Абавязак людзей, якія шчыра клапоцяцца пра дабрабыт беларусаў, а не пра ўласную карысьць за народны кошт – даць беларусам гэтыя правы і свабоды.

2016 год быў годам некалькіх важных гадавінаў.

Роўна дваццаць пяць гадоў таму Беларусь стала незалежнай ад СССР і аднавіла свой дзяржаўны сувэрэнітэт. Вось ужо чвэрць стагодзьдзя наша Радзіма ёсьць паўнавартаснай міжнародна прызнанай дзяржавай. За гэта шмат гадоў перад гэтым змагаліся і за гэта маліліся беларусы ва ўсім сьвеце. І ніякія вонкавыя і ўнутраныя непрыяцелі за гэты час так і ня здолелі пазбавіць нас незалежнасьці. Беларусь адбылася як паўнавартасная дзяржава. Мы дабіліся вялікай гістарычнай перамогі, якую ніхто ня здолее ў нас адабраць.

Роўна трыццаць гадоў прайшло з дня Чарнобыльскай аварыі – самай страшнай экалягічнай катастрофы ў гісторыі чалавецтва, у эпіцэнтры якой было наканавана апынуцца нашай Бацькаўшчыне. Гэта страшнае выпрабаваньне для нашай Беларусі, якое дагэтуль не пераадоленае – і пераадольваць якое перашкаджае безадказная палітыка ўладаў.

Таксама дваццаць гадоў прайшло з сумнавядомага незаконнага рэфэрэндуму 1996 году, які стаў завяршальным этапам дзяржаўнага перавароту ў Беларусі і зрабіў яе дыктатурай і сатэлітам Расеі. Але нават гэты рэфэрэндум так і не зламаў наш беларускі вольны дух, пра які сьпяваецца ў нашым гімне, Ваяцкім Маршы. У цяжкіх умовах, насуперак дыскрымінацыі, працягвае існаваць і сіламі простых людзей разьвівацца беларуская мова, працягваюць выдавацца кнігі пра праўдзівую беларускую гісторыю, працягвае лунаць Штандар наш бел-чырвона-белы і мчаць старадаўняя Пагоня – у прыватных дамах, на вопратцы і на аўтамабілях. І, галоўнае, Беларусь застаецца незалежнай. З гэтым цяпер вымушаны мірыцца і гэтую незалежнасьць цяпер вымушаны спрабаваць умацоўваць і аўтарытарны рэжым у Менску.

Наступны год будзе таксама асаблівы ў тым, што тычыцца юбілеяў. У 2017 годзе мы пачнем адзначаць стагодзьдзе здабыцьця Беларусяй незалежнасьці. Драматычныя падзеі 1917 году адыгралі лёсавызначальную ролю для Беларусі і стварылі перадумовы для абвяшчэньня ў 1918 годзе незалежнай і дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі. 2017 год – гэта сотыя ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які быў ключавой падзеяй на шляху да стварэньня незалежнай Беларусі і на якім была ўтвораная Рада БНР як першапачаткова Рада Ўсебеларускага Кангрэсу.

Дарагія землякі ўва ўсім сьвеце: на Берасьцейшчыне й Віцебшчыне, на Гарадзеншчыне, Гомельшчыне й Магілёўшчыне; у Менску і ў маіх родных Стоўпцах; у Польшчы й Чэхіі, у Расеі і ва Ўкраіне, у ЗША і Канадзе, Вялікай Брытаніі і Бэльгіі і ўсіх іншых краінах, дзе жывуць нашыя суродзічы.

Віншую вас з Нараджэньнем Хрыстовым, незалежна ад календару, паводле якога сьвяткуеце, і з Новым Годам. Хай гэты сьвяточны час прынясе ўсім нам радасьць ад стасаваньня з блізкімі і надзею на шчасьлівы новы 2017 год. Мы павінны жыць надзеяй і верай у лепшае, у тое, што будучыня прынясе Беларусі доўгачаканае вызваленьне – і так яно абавязкова й будзе.

**Івонка Сурвілла,**
Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Атава, Сьнежань 2016 г.

# ЗАБОТЕ ГОСУДАРСТВА НЕТ ПРЕДЕЛА

Жилищные субсидии для частичного возмещения платы за жилищно-коммунальные услуги для населения действуют в Беларуси с 1 октября 2016 года. На их получение могут рассчитывать горожане, которые тратят на оплату ЖКУ более 20% своего совокупного дохода и жители села, у которых уходит более 15% совокупного дохода.

Звучит красиво «Государство выделяет помощь малоимущему населению в оплате коммунальных услуг» … И вот мы начинаем собирать документы, справки, ксерокопии документов о доходе за последние 6 месяцев и т. п. документы. На сбор документов тратим часов 6 времени, за проезд на общественном транспорте для сбора документов тратим 3 рубля 20 копеек, на ксерокопии 2 рубля 50 копеек, отдаём собранные документы в расчётный центр своего района… И всё проходит, документы принимают и кажется мы подходим к категории граждан которым Государство будет помогать в оплате коммунальных услуг.

Через месяц получаем квитки на оплату услуг, сумма только увеличена, звоним в Центр субсидирования населения и нам отвечает приятный женский голос:

-Субсидии Вами получены и они составляют за ноябрь 1(**ОДИН**!) рубль 34 копейки, в декабре, в связи с увеличением отопления помещения они увеличатся и составят примерно 1(ОДИН) рубль 44 копейки.

Эта сумма является 1 (ОДНИМ) % от ежемесячного дохода гражденина. Помощь составила 1,3 буханки «Билевского» хлеба в месяц. 50 грамм хлеба в день на человека.

Мне хотелось бы задать вопрос людям которые придумали эту помощь

-Вы что издеваетесь???

А.Снежный

# ПАДТРЫМАЙ БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ!

**ПАРТЫЯ БНФ ЗЬБІРАЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА СВАЮ ПАЛІТЫЧНУЮ ДЗЕЙНАСЬЦЬ.**

У краінах развітай дэмакратыі на заканадаўчым узроўні існуюць рашэнні аб дзяржаўным фінансаванні партыяў. Беларусь, на жаль, не ўваходзіць у гэты пералік.

Паспяховасць вырашэння фінансавых праблемаў па ўтрыманні цэнтральных і рэгіянальных офісаў, дзейнасці арганізацый і суполак цалкам залежаць ад іх сяброў, кіраўніцтва партый і іх структураў.

У асабліва неспрыяльных умовах апынуліся апазіцыйныя да існуючай на Беларусі ўлады партыі, якія прыраўнены да камерцыйных арганізацыяў. Дзяржава са свайго боку цалкам адмовілася ад абавязку па забяспячэнні структураў партый офіснымі памяшканнямі, арганізаваўшы пры гэтым ціск на камерцыйныя структуры, якія пайшлі насустрач гэтым партыям.

Сябры апазіцыйных партый з сярэдзіны 1990-х гадоў сталі аб’ектамі пераследу з боку ўладаў праз звальненні з працы, выключэнні з навучальных установаў, закрыццё іх бізнэсу, праз фальсіфікацыі крымінальных і адміністрацыйных справаў супраць іх.

Калі на пачатку 1990-х гадоў прыналежнасць да партыі ўспрымалася грамадствам як прэстыжная з’ява, кожны чалавек, прыйшоўшы ў яе, адчуваў падтрымку арганізацыі, мог стаць дэпутатам, то цяпер не кожны грамадска актыўны грамадзянін адважваецца ў адкрытую заявіць аб сваёй партыйнай прыналежнасці або прыхільнасці да той або іншай арганізацыі.

Дадзеная сітуацыя прывяла да таго, што, да прыкладу, Беларуская Сацыял-дэмакратычная Грамада, як заявіў 29 лістапада 2016 года лідар партыі Станіслаў Шушкевіч, вымушана закончыць у гэтым годзе шэраг дамоваў аб арэндзе офісных памяшканняў. А гэта ў сваю чаргу дае падставы Міністэрству юстыцыі да скасавання рэгістрацыі Грамады, афіцыйна зарэгістраванай у 1996 годзе.

Ёсць падставы меркаваць, што ў бліжэйшы час уладныя структуры краіны будуць ствараць для апазіцыйных партый і арганізацый, у тым ліку для Партыі БНФ і ГА “БНФ «Адраджэньне»”, яшчэ больш жорсткія ўмовы іх існавання, паставіўшы іх на мяжу выжывання. Як, напрыклад, праз павелічэнне з пачатку 2017 года плацяжоў па арэндзе і за камунальныя паслугі.

Ліквідуючы партыйныя арганізацыі і іх структуры, улады такім чынам імкнуцца абмежаваць да мінімума магчымасці апазіцыі па ўдзелу ў выбарчых кампаніях праз вылучэнне сваіх кандыдатаў, сябраў камісій, назіральнікаў за ходам і арганізацыяй выбарчага працэсу.

На сёння Партыі БНФ і ГА “БНФ «Адраджэньне»”, дзякуючы ахвяраванням сяброў, а таксама ахвяраванням яе шматлікіх прыхільнікаў унутры краіны, хоць і з цяжкасцю, але ўсё ж удаецца забяспечыць фінансавую аплату арэнды і камунальных плацяжоў, а таксама дзейнасць офісаў у Мінску і рэгіёнах краіны.

Але ўзважваючы рэальны стан і прадбачачы цяжкасці з аплатай па арэндзе і камунальных плацяжах у бліжэйшай перспектыве, кіраўніцтва БНФ звяртаецца да сяброў і прыхільнікаў з просьбай аб пашырэнні падтрымкі структураў БНФ ва ўсіх рэгіёнах краіны.

Ваша падтрымка вельмі важкая для БНФ з мэтай арганізацыі яго дзейнасці як абаронцы нацыянальных інтарэсаў Беларусі і інтарэсаў беларускага народа.

Заклікаем пералічваць ахвяраванні на дзейнасць БНФ праз наступныя рэквізіты:

**ГРАМАДЗКАЕ АБ’ЯДНАННЕ БНФ “АДРАДЖЭНЬНЕ”, разліковы рахунак 3015 1001 47004 у банку ААТ “Банк БелВЭБ” філіял Мінскае аддзяленне №2. код 226**

**УНП: 100052236**

У графе “прызначэнне плацяжу” просім пазначыць:

— для ахвяраванняў на статутную дзейнасць — “бязвыплатны ўзнос”;

— для ахвяраванняў на аплату сядзібы — “бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшкання”.

Ахвяраванні можна ўносіць непасрэдна і ў офісах БНФ у Мінску і абласных цэнтрах.

Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраванні!

**Управа Партыі БНФ і ГА “БНФ “Адраджэньне””**